4 ЖНІЎНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№87 (618) КОШТ СВАБОДНЫ

## ДЭЗІНТЭГРАЦЫЯ



стар.3

КРЫМІНАЛ

## Чатыры кулі

### Спартсмены па-ранейшаму ўваходзяць у групу рызыкі

Алесь ДАШЧЫНСКІ

У чора ноччу ў двары свайго дома па Партызанскім праспекце ў Мінску забіты прэзідэнт Беларускай федэрацыі каратэ 38-гадовы Сяргей Волчак. На трупе выяўленыя чатыры агнястрэльныя раненні ў вобласці галавы і грудзей. Зброю на месцы злачынства не знайшлі. Абставіны і матывы забойства цяпер удакладняюцца, узбуджана крымінальная справа, а расследаваннем зоймецца гарадская пракуратура, што сведчыць аб важнасці гэтай справы. Па нашых звестках, Сяргей Волчак узначальваў беларускую федэрацыю тэхнічнага каратэ-до. Сцвярджаюць, што ён павінен быў узначаліць беларускую асацыяцыю каратэ. У міністэрстве спорту не мелі ніякай інфармацыі ні пра асобу Сяргея Волчака, ні пра яго арганізацыю.

Па словах чыноўнікаў, каратэ развіваецца ў нашай краіне само па сабе, і існуе шмат розных накірункаў, якія дзейнічаюць у дварах і паўпадвалах. Аднак міністэрства спорту «не прызнае гэтых кантор».

Варта дадаць, што вельмі часта разам са спортам суседнічае крымінальны бізнес. Таму не выключана, што Сяргей Волчак стаў ахвярай крымінальных разборак. ■

## «Камерунскае забойства»

Канстанцін УВАРАЎ

У Магілёўскім абласным судзе распачаўся працэс над двума грамадзянамі афрыканскай Рэспублікі Камерун. Іх абвінавачваюць у наўмысным забойстве, учыненым з асобай жорсткасцю. Злачынства было ўчынене напрыканцы 1998 года. Згодна з матэрыяламі следства, усё пачалося пасля таго, як з кватэры, у якой жылі камерунцы, знікла больш за 1.500 долараў ЗША. Западозрыўшы ў крадзяжы свайго суайчынніка, афрыканцы прыняліся дабівацца ягонага прызнання з дапамогай катаванняў. Ахвяру збівалі markdownрознымі прадметамі, прыкладалі да цела распаленае лязо нажа, злучаны з электрасеткай агалены провад дагэтуль, пакуль камерунец не памёр ад атрыманых раненняў. Пакуль перад судом прадсталі толькі двое афрыканцаў, якіх падазраюць у забойстве. Астатнія жыхары «чорнай» кватэры знаходзяцца ў вышуку. Калі віна падсудных будзе даказаная, яны правядуць на тэрыторыі Беларусі яшчэ 15—25 гадоў. Толькі на гэты раз у адной калоніяў. ■

# Ціцянкоў напалохаў брэсцкіх чыноўнікаў



Яны чакаюць «Дожынок»

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Беларускія ўлады цалкам прайграюць бітву за ўраджай, прычым па ўсіх параметрах. Тэрмін заканчэння жніва, усталяваны Аляксандрам Лукашэнкам, імкліва набліжаецца, а зерне пакуль сабранае толькі з 50—60 працэнтаў калгасных палеткаў.**

Нармальнаму збору ўраджаю не дапамагаюць ні пагрозы кіраўніка дзяржавы падчас селектарных нарадаў разабрацца з чыноўнікамі, адказнымі за жніво, ні прапагандысцкае забеспячэнне ходу ўборкі ў дзяржаўных СМІ, ні абяцанні шчодрага ўзнагароджання тых, хто хутчэй за астатніх збярэ збожжа.

Аднак нехта ж павінен несці канкрэтную адказнасць за правал жніва, і таму напрыканцы мінулага тыдня Аляксандр Лукашэнка падпісаў спецыяльнае распараджэнне «па пытаннях арганізацыйнага забеспячэння ўборкі ўраджаю». Згодна з гэтым дакументам, вышэйшыя дзяржаўныя чыноўнікі цяпер асабіста адказваюць перад Лукашэнкам за ход жніва ў дaверaных ім абласцях. Так, сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман адказвае за Гарадзеншчыну, спікеры палатаў Шыпук і Малафееў — адпаведна за Магілёўшчыну і Гомельшчыну, галоўны беларускі «гаспадарнік» Іван Ціцянкоў прызначаны куратарам Брэсцкай вобласці і г.д.

Прэзідэнцкі заўхоз Іван Іваныч падышоў да даручанай справы найбольш адказна. Ён адразу накіраваўся на Брэстчыну, сабраў мясцовую вертыкаль і паехаў з імі па гаспадарках вобласці. Карціна, якую пабачыў Ціцянкоў на палетках, яго моцна расчаравала. З кожнага гектара там збіраюць да 20 цэнтнераў збожжа і яшчэ 10 цэнтнераў на кожным гектары губляюць. А да ўсяго яшчэ Лукашэнка загадаў закончыць жніво на Брэстчыне да 5 жніўня, а на сённяшні дзень з плошчаў сабрана толькі трохі больш за 60 працэнтаў ураджаю. Іван Ціцянкоў хадзіў па палях, падбіраў з зямлі каласкі і лаяў мясцовых чыноўнікаў. У Жабінкаўскім раёне ён наогул выступіў з рэвалюцыйнай заявай. Паводле словаў Ціцянкова, у вобласці трэба цалкам спыніць уборку ўраджаю, пакараць вінаватае ў правале кампаніі начальства і толькі пасля гэтага аднавіць жніво. Брэсцкія абласныя і раённыя вертыкальшчыкі былі блізкія да шокавага стану. Справа ў тым, што Ціцянкоў паабяцаў чыноўнікам прывезці на гэтым тыдні ў вобласць Лукашэнку, а ён ужо, маўляў, навядзе там парадак.

Па нашых звестках, цяпер мясцовыя вертыкальшчыкі з жахам чакаюць візіту Лукашэнкі, бо не выключана, што ён можа цалкам змяніць кіраўніцтва вобласці на чале з губернатарам Уладзімірам Заламаем. Праўда, паводле іншай інфармацыі, існуе і іншы план кадравай ратацыі. Ужо больш як месяц па ўладных кабінетах у Брэсце ходзяць чуткі, што Аляксандр Лукашэнка мае намер Ціцянкова пасадзіць у крэсла кіраўніка Брэсцкай вобласці. А як усё будзе насамрэч, стане вядома праз некалькі дзён, калі кіраўнік дзяржавы прыедзе з інспекцыяй на Брэстчыну. ■

# Фронтосмагория

## БНФ на пороге смены поколений

Николай ХАЛЕЗИН

**Съезд БНФ, проходивший в эти выходные, продемонстрировал глубокий раскол в некогда самой влиятельной политической структуре страны. Основными действующими лицами действа, разыгравшегося в здании ДК «Сукно», стали бессменный лидер фронта Зенон Пазьняк и один из его заместителей Винцук Вечорка. Они-то и разорвали состав делегатов на две равные части.**

### Атмосфера

Чтобы ощутить атмосферу первого дня VI съезда Белорусского Народного Фронта, не обязательно было там присутствовать, — достаточно заглянуть на чердак старого деревенского дома: спертый воздух, паутина на окнах и старые вещи. Казалось, ничто не может изменить привычный ход вещей, — делегаты наговорятся, руководство доложит об успехах, с памятника Зенону Пазьняку сотрут пыль.

Атмосфера съезда даже отдаленно не напоминала прошедший в этом же зале прошлой осенью Конгресс демократических сил — ощущалась усталость рядовых фронтовцев от непоследовательной политики руководства БНФ в последние два года. О былой славе лидера напоминал транспарант в фойе дворца культуры: «Зянон часова ў эміграцыі, але заўсёды — лідэр нацыі!». Этот нездоровый всплеск эмоций был моментально переделан находчивыми журналистами: **«Зянон заўсёды ў эміграцыі, бо быў часова — лідэр нацыі!».**

От того, что на съезде практически не было известных деятелей культуры и лидеров общественного мнения, создавалось устойчивое впечатление, что у фронта нет будущего. ►

*Окончание на стр.3*

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Даскакаліся!

У панядзелак мінская міліцыя за розныя правапарушэнні затрымала больш за 30 былых ваеннаслужачых ваенна-паветраных войскаў. Усе яны святкавалі 2 жніўня — Дзень дэсантнікаў. Тым не менш, як паведаміў прэс-цэнтр мінскага ГУУС, сур'ёзных інцыдэнтаў з удзелам паддатых хлопцаў у цяльняшках і берэтах не было.

### Яшчэ адна ахвяра катастрофы

У Індыі міністр чыгунак Ніціш Кумар падаў учора ў адстаўку ў сувязі з жудаснай чыгуначнай катастрофай, што адбылася ў панядзелак. Нагадаем, што на аднакалейцы сутыкнуліся два цягнікі, у выніку чаго загінула ад 240 да 500 чалавек – дакладныя лічбы невядомыя і цяпер. У выніку катастрофы пацярпела каля тысячы чалавек. Разбор абломкаў цягнікоў і пошук жывых людзей і трупаў працягваецца.

### Украінскія міратворцы паедуць у Косава

Да 800 украінскіх міратворцаў накіруюцца бліжэйшым часам у Косава. Міратворчы кантынгент Украіны будзе знаходзіцца там пад эгідай ААН. Адпаведны закон падпісаў учора прэзідэнт Украіны Леанід Кучма. Цяпер кабінету міністраў трэба будзе забяспечыць належную падрыхтоўку, адпраўку, фінансаванне і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне групы вайскоўцаў.

Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ



НАДВОР'Е




**4 жніўня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі па **Гомельскай і Магілёўскай** абласцях месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер няўстойлівы, слабы, пры навальніцах парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра 22—27, па Гомельскай, Магілёўскай абласцях — 18—23. **5—6 жніўня** пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. **6 жніўня** па **Гомельскай і Магілёўскай** абласцях месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер пераменных напрамкаў, слабы, пры навальніцах парывысты. Тэмпература ноччу 8—13, днём **5 жніўня** 21—26, **6 жніўня** 24—29 градусаў.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

# Фронтосмагория

*Окончание. Начало на стр.1*

## Конкуренты

Текст выступления Зенона Пазьняка зачитывал доцент политехнической академии Николай Анципович. Воспринимать выступление лидера фронта в чужом исполнении невозможно. Когда сам Пазьняк вбивает слова, как гвозди, и расплескивает по залу харизматические флюиды, не очень вдумываешься в смысл сказанного, а больше попадаешь в плен его энергетики. Тот же текст, произносимый на одной ноте, вызывает недоумение. Анципович-Пазьняк говорил что-то о происках КГБ, ФСБ и лукашенковского режима, а путь выхода из сложившейся ситуации видел в «выборах гражданского парламента» и «создании широкого освободительного движения».

Против последнего тезиса что-либо возразить тяжело. Но так же тяжело представить, как собирается человек, находящийся в эмиграции, решить эту непосильную для него задачу. Что же касается выборов гражданского парламента, то стоит напомнить Зенону Станиславовичу, что весной он уже участвовал в одних выборах — президентских. О результате вспоминать не хочется.

Пазьняк всегда был горазд на оригинальные невыполнимые идеи, которые отвлекали фронтовских активистов от серьезных задач и заканчивались ничем. Здесь можно вспомнить сбор подписей за отставку Лукашенко или эпопею с гражданством БНР. Оба проекта застряли где-то на середине пути и не оказали никакого воздействия на сложнейшую ситуацию, в которой оказалась страна.

Из доклада лидера фронта стало понятно, что он категорически не хочет признать наличия глубочайшего кризиса, поразившего самую сильную некогда политическую структуру.

Выступление Винцука Вячорки, оппонировавшего отсутствующему Зенону Пазьняку, выглядело более реалистичным, но не смогло зажечь среди делегатов съезда веру в то, что перед ними новый лидер, способный повести за собой. В отчете о проделанной за последние два года работе говорилось о встрече с министром иностранных дел Польши Брониславом Геремеком, а также проводимых с активистами фронта треннингах и семинарах. Маловато для политика, претендующего на лидерство.

Однако порадовало то, что Вечорка, в отличие от Пазьняка, реалист — он трезво оценивает ситуацию и открыто говорит о том, что фронт превратился в секту и потерял поддержку среди населения. Правильно поставленный диагноз — это уже путь к выздоровлению.

## Группы поддержки

Если посмотреть на составы противоборствующих сторон, то становится понятным, что конфликтуют не два политика, борющихся за власть в партии, а конфликтуют поколения.

Старшее (за редким исключением) поддерживает Пазьняка и доверяет каждому его слову, внимая факсам «варшавского оракула» и ненавидя очередного «агента Кремля», «офицера КГБ» или «резидента ФСБ». Лагерь Пазьняка в руководящих структурах фронта представляют Сергей Попков, Анатолий Криворот и Юрий Беленький. Их борьба за лидерство Пазьняка во фронте совершенно понятна — уйди Зенон Станиславович на покой, и эти фигуры канут в небытие.

Противостоять Левону Борщевскому, Станиславу Гусаку, Вячеславу Сивчику и Юрию Ходыко достаточно тяжело — это люди, которые пользуются авторитетом во фронте, и совокупный вес сторонников этих политиков безусловно превышает вес поклонников Зенона Пазьняка. На их боевом счету массовые акции, аресты, голодовки. Что может противопоставить, к примеру, Сергей Попков? Что не дал на акцию 21 июля мегафоны? Или риторику с использованием сплошных «ну» и «это самое»? Не удивительно, что сторонники Пазьняка напрочь проиграли своим оппонентам полемику.

Реформаторские силы БНФ имеют, в отличие от своих противников, контакты со СМИ. Этот ресурс не был эффективно использован во время подготовки к съезду. Если бы «группа Вечорки» отчетливо артикулировала состав своего блока, постановку целей и тактику выполнения задач после смены власти во фронте, то все было бы решено 1 августа.




Смены власти не произошло — ни один из кандидатов не набрал большинства. Пазьняку не хватило для победы 5 голосов, Вечорке — 9. При 321 делегате, имеющем право голоса, лидер фронта набрал 156 голосов, а его заместитель и конкурент — 152.

В таком раскладе голосов Зенон Станиславович может винить только лишь самого себя. В предложенном им составе Сойма не было ни одного человека из тех, кто критиковал Пазьняка. Для многих это стало сигналом к смене фаворита — уж больно напоминал этот ход лидера фронта сталинские партийные чистки. Абсолютным контрастом на этом фоне смотрелся список Сойма, предложенный Винцуком Вечоркой. Помимо того, что в него были включены около 20 человек из списка конкурента, так под номером 28 значился сам Зенон Станиславович. Вечорка смог продемонстрировать делегатам, что он оставляет для критики «калитку открытой». Фронтовские активисты смогли оценить этот ход кандидата на пост председателя.

## Смена поколений

Теперь все будет зависеть от того, как поведут себя противоборствующие стороны в августе-сентябре. Если «молодые реформаторы» фронта смогут активностью и точностью позиций убедить рядовых активистов в своей состоятельности, то период депрессии и склок в Белорусском Народном Фронте закончится. Если же этого не произойдет — страна лишится одной из ведущих политических сил. Ответственность велика, как велики и проблемы, стоящие перед «группой Вечорки».

Одна из основных — это отсутствие толковых менеджеров. К белорусским политикам пока не пришло понимание, что продавать продукты питания и продвигать в массы идеологию — это практически одна и та же задача. И выполнять эту задачу должны не только носители и авторы идеологии, но и те, кто умеет эту идеологию людям «продать». Задача по наращиванию рейтинга партии отличается от задачи по увеличению популярности марки автомобиля лишь в нюансах. И решать подобные задачи должны люди, чей ум не находится под прессом догм и стереотипов.

Сегодня не только в БНФ, но и в других политических структурах происходит смена поколений: в Верховном Совете проявляет завидную активность Виктор Гончар, в ОГП на первые роли выходит Анатолий Лебедько, укрепляет свои позиции в социал-демократическом движении Николай Статкевич. Людям одного поколения легче понять друг друга, а, следовательно, легче договориться.

Складывающаяся ситуация не может не радовать. Процесс смены поколений так же неизбежен, как восход солнца после ночи. Наметившееся омоложение политического поля повлечет за собой и появление совершенно новых имен. Пройдет совсем немного времени и белорусы перестанут задавать друг другу бестолковый вопрос: «А кто может заменить Лукашенко?». ■

**ТЭНДЭНЦЫІ**

# Славянская дэзінтэграцыя?

**Хоць урады Расіі і Беларусі працягваюць усенародна смакаваць ідэю будучага цуда-саюза, становішча вакол самога саюза далёка не такое бязвоблачнае. Мецьсправу з сённяшняй Беларуссю вельмі небяспечна, тым больш з яе сённяшнім прэзідэнтам, які выношвае недвухсэнсоўныя планы.**

Чым абернецца для кантынента новае стварэнне — нябачнай ракіроўкай ці змяшчэннем цэнтра геапалітычнай гравітацыі на Усход? Яшчэ на пачатку месяца эксцэнтрычны прэзідэнт Беларусі, здавалася б, пакінуў мары аб адзінай вялікай дзяржаве і павярнуў твар на Захад. «Мною аддадзенае распараджэнне МЗС наладзіць самыя сяброўскія, цесныя адносіны з суседзямі, у тым ліку з заходнімі краінамі. Мы зрабілі вельмі моцны крэн на Усход», — заявіў Лукашэнка, адразу ж паабяцаўшы наладзіць дыялог з напаўжывой апазіцыяй. Апошняе было, верагодна, сказана дзеля таго, каб Захад нарэшце палюбіў прэзідэнта Беларусі і перастаў называць яго дыктатарам.

Калі Беларусь накіруе свой знешнепалітычны вектар у бок Захаду, і браты-славяне адрэагуюць адпаведна, Расія згубіць буферную зону. Украіна, якая адчайна супраціўляецца прарасійскім настроям, атрымае маральную аплявуху. Краіны ж цэнтральнай і ўсходняй Еўропы, такія, як Польшча ці Прыбалтыйскія дзяржавы, не выключана, вернуць крэдыт даверу Беларусі і прымуць у шэрагі аднадумцаў.

Аднак не трэба занадта спадзявацца, бо сярод славянаў нямала і працігнікаў такога развароту на 180 градусаў. Асабліва гэта праявілася падчас нядаўняга Балканскага крызісу, калі многія расіяне, украінцы і беларусы ўспомнілі пра моц былога саюза як пра надзейны шчыт супраць NATOўскай агрэсіі і далейшага расшырэння NATO на Усход. Мары сталі прымаць зусім рэальныя рысы ў свеце зближэння Расіі і Беларусі, а таксама кастрычніцкіх выбараў ва Украіне, калі б перамогу на іх атрымаў чалавек, які б пайшоў на ўзнаўленне саюза.

Што ж заставіла пана Лукашэнку «змяніць кружэлку»? Ці абмяжуецца справа сатрасеннем паветра? Маючы ўсе падставы думаць, што не абмяжуецца. Беларусь, у свой час адна з перадавых савецкіх рэспублік, зараз аказалася ў абсалютнай эканамічнай і палітычнай самаізаляцыі. Поўны банкрот, яна адстала ад той жа Польшчы, якая ўжо стукаецца ў Еўропу, хоць у недалёкім мінулым знаходзілася ў аналагічным стане. Куды прывялі краіну грандыёзныя планы Лукашэнкі? Яго галоўны перагаворшчык Міхаіл Сазонаў цяжка ўздыхае наконт праекта — Расія бачыць яго ў доўгатэрміновай перспектыве, у той час як Беларусь хоча імгненных прыбыткаў. Большую частку таго, на што прэтэндавала Расія, яна, дарэчы, атрымала і так, без усялякага аб'яднання. Асабліва па частцы ўзброеных сілаў. Беларусь не толькі пайшла на зліццё ППА, спецслужбаў і абароннай прамысловасці, але таксама, і што самае галоўнае, дала згоду на аб'яднанне дзвюх арміяў у адну. Аднак, каб гаварыць аб сапраўдным саюзе, такога зліцця яўна недастаткова.

У той жа час Расія не адчувае бачнага жадання браць на буксір адсталага суседа, дазволіўшы яго саслабеламу Цэнтральнаму банку друкаваць расійскі рубель. Адпаведна, многім расіянам можа прыйсціся не даспадобы ідэя аднолькавай грашовай адзінкі з курсам, спецыяльна падагнаным пад беларуса. Падлічана, што зліццё двух славянскіх рублёў абыдзецца Расіі стратай прыблізна 5 працэнтаў і без таго зменшанага ВНП.

Як бы там ні было, перагаворны працэс ужо ідзе. Але ці захоча Барыс Ельцын яго фарсіраваць, ідучы на павадку ў тых, хто жадае любой цаной утрымаць уладу і прапаноўвае расійскаму прэзідэнту стаць прэзідэнтам саюзным, паставіўшы намеснікам яшчэ аднаго прэзідэнта — беларускага? Што ж, гэта сапраўды дазволіць Ельцыну застацца больш адведзеных яму двух тэрмінаў, якія скончацца па сапраўднай канстытуцыі ў наступным годзе. Як гаворыцца, свежае паданне, ды вось толькі верыцца з цяжкасцю. Два тыдні таму Барыс Ельцын ужо заявіў аб тым, што гатовы перадаць праўленне новавыбранаму дэмакратычнаму кіраўніку. Больш за іншых змагаюцца за расійска-беларускі саюз яго заклятыя ворагі — камуністы і нацыяналісты.

Такім чынам, у Лукашэнкі застаецца тры варыянты паводзінаў. Ён усё яшчэ можа паспрабаваць дамовіцца з Захадам. А можа цярпліва чакаць з'яўлення ў Расіі новага прэзідэнта і ўжо з ім дамаўляцца пра саюз. Альбо застаецца верхаводзіць у асабістай бацькаўшчыне да 2001 г. — як-ніяк з канстытуцыяй пытанне вырашанае.

Ні адзін з гэтых варыянтаў нічога добрага не абяцае. Захад не надта верыць у адроджаныя да яго пачуцці Аляксандра Лукашэнкі. Вельмі часта той мяняе аб'екты замілавання. Вось толькі любіць дэмакратыю так і не навучыўся. Незразумела, для чаго разагнаў законны парламент, уладкаваў у Канстытуцыйны суд асабістага сябра, запужаў прэсу, упёк за краты апазіцыйных лідэраў... Ва ўсіх грахах заўсёды абвінавачваў Захад; не прынёс прабачэння, калі яго ППА збіла бяскрыўдны шар з амерыканскімі паветраплавальнікамі; па-хамску выселіў заходніх паслоў з рэзідэнцыяў і амаль з захапленнем адазваўся пра Гітлера.

Пры ўсім гэтым Лукашэнка, былы старшыня калгаса, быў і застаецца каварным дэмагогам. Сарака трох гадоў узросту, ён можа яшчэ доўга заставацца папулярным сярод свайго электарата. Стаў жа ён прэзідэнтам у 1994 г. з 80% галасоў, а праз два гады выйграў сумнеўны рэферэндум, які дазволіў яму змяніць Канстытуцыю краіны як яму захацелася. І калі Германія хутчэй за ўсіх прыме яго такім, які ёсць, Захад наўрад ці захоча бачыць лукашэнкаўскую Беларусь кандыдатам у свае элітныя клубы.

Што да Расіі, яна не пойдзе на тую мадэль аб'яднання, якую так актыўна прасоўвае Лукашэнка. Максімум, што ён атрымае — Германію 90-га, калі шэсць беларускіх абласцей папоўняць рады 89 расійскіх. У такім выпадку яму застанецца карабкацца на палітычны Алімп новай Расіі ў 2004 г.

Улічваючы асаблівасці расійскай нацыянальнай палітыкі, можна не сумнявацца ў тым, што такая кандыдатура там нікога не здзівіць. Між тым, Лукашэнка ўжо на ўсю моц апрацоўвае рускіх: толькі ў гэтым годзе ён здзейсніў больш за тузін паездак у расійскія рэгіёны. І гэта пры тым, што ў сваёй уласнай краіне ён робіць усё магчымае, каб не дапусціць узнікнення ў народзе нацыянальнай самасвядомасці. У якасці прэлюдыі да інтэграцыі ён прыбраў з вучэбнага плана такія прадметы, як беларуская мова і гісторыя, а на вышэйшыя дзяржаўныя пасты прызначыў супрацоўнікаў расійскага КДБ, уключаючы пасаду міністра замежных справаў. «Яны размежаюць прыменіць на Беларусі лацінаамерыканскі альбо афрыканскі сцэнар захопу ўлады», — гаворыць адзін з лідэраў беларускай апазіцыі.

Але нават калі Лукашэнка дазволіць «саюз двух нераўнапраўных», то і ў гэтым выпадку ўсё не так проста. Заходняя Беларусь, ва ўсякім разе дзве вобласці, якія мяжуюць з Польшчай, могуць патрабаваць плебісцыту. А тыя расійскія палітыкі, якія ірвуцца заняць месца Ельцына пасля яго сыходу, зробяць усё, каб вывесці новага канкурэнта са строю. Многія бачаць у ім рэальную пагрозу, а дэмакраты і наогул на дух не пераносяць.

Такім чынам, у яго застаецца апошні варыянт: застацца ў руля Беларусі, не маючы магчымасці круціць гэты руль ні ўлева, ні ўправа. Пад яго кіраўніцтвам краіна ўшчэнт збяднее. Сяляне існуюць на 8 долараў у месяц, ды і гэтыя крыхі ім плацяць на тры месяцы пазней тэрміну: настаўнікі атрымліваюць крыху больш — 20 долараў, але таксама не без рэгулярных затрымак выплаты. Маецца няхватка некаторых прадуктаў, на частку з іх нават увялі абмежаванне. Бізнес падвяргаецца жорсткаму і бязглуздаму падаткаабкладанню. Узровень інфляцыі прыкладна 20% у месяц. Найбольш верагоднае развіццё падзеяў, выраашы Лукашэнкі і ў далейшым кіраваць краінай, — рост збяднення і карнага апарату. З апошнім ён, дарэчы, дабіўся поспеху — не дарма яго сто дваццацітысячны міліцэйскі кантынгент перавышае рэгулярную армію і па колькасці, і па ўзбраенні.

**Economist,**
**24 ліпеня 1999 г.,**
**пераклад прэс-цэнтра**
**Хартыі'97**
**спецыяльна для НАВІНАЎ**

# О чем пишет Леонид Кучма

## Нормотворчество президента Украины в зеркале цифр и фактов

**Роман РОМАНОВ**
**г.Севастополь**

Деятельность президента Украины по изданию нормативных актов не единожды за последнее время подвергалась критике. Выслушав несколько мнений на эту тему политических оппонентов Леонида Кучмы, решил я сделать собственные выводы, стараясь, по возможности, быть максимально объективным. Для этого попытался обобщить всю систему нормативных актов, изданных главой государства за последние полгода. Самый большой помощник в такой работе - Интернет. Воспользовавшись информационными услугами, предоставляемыми бесплатно на веб-страничке Верховной Рады Украины, я получил список из 833 указов президента Украины, изданных с января по июль 1999 года.

При первой же попытке классификации результатов своего поиска я обнаружил, что самая большая группа указов президента касается персональных кадровых вопросов. Страсть президента менять чиновников (часто только местами), как перчатки, вполне объяснима. Работу структур исполнительной власти, судя по реальной ситуации в стране, вряд ли можно назвать эффективной. Слишком частые кадровые изменения могут служить подтверждением того, что президент оценивает ее примерно так же.


Фота IREX/ProMedia

Следующая по численности группа указов (почти треть) - это награждение орденами, знаками, медалями, присвоение почетных званий и прочее. Вскоре, очевидно, одним из предметов национальной гордости должно стать превышение количества награжденных украинским орденом «За заслуги» населения нескольких европейских стран. Некоторые традиции из нашего недавнего не совсем светлого прошлого бережно сохраняются главой украинского государства.

Более 30 раз президент вынужден был изменять, отменять, уточнять и даже толковать свои предыдущие указы. Судя по всему, президент не всегда четко и однозначно выражает свою волю, а потому возникает необходимость давать впоследствии толкования в виде отдельных указов.

О содержании 24 указов не известно ничего, поскольку рядом с ними стоит лишь не совсем понятная пометка «не для печати». Всплески засекреченности у президента происходят время от времени. Так, в феврале подобных указов было подписано аж 10. Поскольку содержание указов хранится в секрете и узнать об этом не представляется возможным, стоит лишь уповать на законопослушность президента и надеяться, что наш гарант соблюдения Конституции следует в своей деятельности требованиям ст.57 основного закона страны, предусматривающей, что любые нормативно-правовые акты, определяющие права и обязанности граждан вступают в силу только после их опубликования.

Примечательно, что в июне 1999 года президентом подписано намного больше указов социального и экономического характера, чем за все предыдущие месяцы этого года вместе взятые. Вполне естественно, что среди политических оппонентов летнее повышение активности президента объясняют началом предвыборной кампании.

Далеко не всегда президент демонстрирует последовательность. Так, указ «О дне Соборности Украины» соседствует с указом «О дне защитника отечества», а награждение кубинского диктатора Фиделя Кастро - с требованием, изложенным в целом ряде указов, согласования издаваемых нормативных актов с законодательством Европейского Союза. Трудно понять, как президент собирается сочетать предполагаемую интеграцию Украины в Европейский Союз с дружбой с Кастро и Лукашенко.

Еще в феврале этого года президент Украины подписал указ «О мерах по совершенствованию нормотворческой деятельности органов исполнительной власти». Похоже, этим действительно стоит заняться и при этом обратить внимание на свои собственные указы. ■

ГРАМАДСТВА

## З'езд татарскай моладзі пройдзе ў Слоніме

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН**

14 жніўня ў Слоніме адбудзецца з'езд татарскай моладзі Беларусі. Ён пройдзе пад дэвізам «Захаваем веру і традыцыю ў новым стагоддзі!».

Праграма з'езда ўключае правядзенне канферэнцыі, на якой выступяць старшыня Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Беларусі муфтый Ісмаіл Александровіч і старшыня мусульманскай рэлігійнай абшчыны Мінска Ібрагім Канапацкі. Да ўдзелу ў з'ездзе запрошаныя юныя прадстаўнікі 25 татарскіх абшчынаў Беларусі, а таксама госці з Польшчы і Літвы.

Напярэдадні, 13 жніўня, у Слоніме будзе ўрачыста адзначацца 5-годдзе адраджэння мясцовай мячэці, адноўленай пры падтрымцы мецэнатаў з арабскіх краінаў і Турцыі і адкрытай у 1994 годзе. Як вядома, Слонімская мячэць стала першым новым ісламскім рэлігійным цэнтрам, які з'явіўся ў Беларусі пасля 60-гадовага перапынку. ■

ПОМНІКІ

## Лужкоў падараваў 4 тысячы долараў Брэсцкай крэпасці

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

Урад Масквы перадаў мемарыяльнаму комплексу «Брэсцкая крэпасць» 100 тысяч расійскіх рублёў (больш за 4 тысячы долараў ЗША). Паводле словаў дырэктара комплексу Валерыя Губарэнкі, гэтыя грошы будуць выкарыстаныя для прывядзення ў парадак мемарыяльных плітаў.

Як вядома, у 1997 годзе кіраўнікі ўрадаў СНД прынялі рашэнне выдзеліць мемарыяльнаму комплексу сродкі ў агульнай суме 2 мільёны долараў ЗША. Аднак за два прайшоўшыя гады крэпасць атрымала толькі каля 600 тысяч долараў ЗША: палову гэтай сумы выдзеліла Беларусь, 250 тысяч — Расія, крыху грошай паступіла ад Казахстана і Малдовы. Дзякуючы гэтым сродкам замянілі плітачнае пакрыццё на плошчы каля Вечнага агню, надзейна ўмацавалі 100-метровы штык, пабудавалі кацельню, што абслугоўвае музей. Дзякуючы намаганням праваслаўных вернікаў аднавілася і заблішчэла пазалочаным крыжам Свята-Мікалаеўская гарнізонная царква, якая некалі была кампазіцыйным цэнтрам Брэст-Літоўскай крэпасці і сёння з'яўляецца неад'емнай часткай мемарыяльнага комплексу. ■

АДУКАЦЫЯ

## У школах будзе новы ўрок

**Марына КУНОЎСКАЯ**

У 20 эксперыментальных школах краіны апрабуецца новы вучэбны курс — «тэхналогіі працоўных працэсаў», які павінен замяніць існуючыя сёння ўрокі працоўнага навучання і чарчэння. Курс пабудаваны на модульнай аснове і прадугледжвае заняткі з 1 па 12 год навучання.

Як плануюць распрацоўшчыкі курсу, на ўроках будзе адбывацца не вымуштроўванне па асобных відах працоўных навыкаў, а навучанне канкрэтным відам дзейнасці ў сістэме чалавек — прырода — грамадства. Аднак у прадметным змесце курсаў пакуль захоўваюцца многія традыцыйныя тэмы ўрокаў працоўнага навучання: металаапрацоўка — для хлопчыкаў, швейная справа і кулінарыя — для дзяўчынак.

Сапраўды новым можа лічыцца пачатак навучання тэхнічнай графіцы паралельна з засваеннем канкрэтных працоўных працэсаў, з'ўленне тэмы «тэхналогія гаспадарання», а таксама агульнага курсу тэхналогіі народных рамёстваў, разлічанага на ўсе гады навучання. Цікава, што апошні курс з'явіўся ў праграме па запатрабаваннях бацькоў і павінен, па задуме, не толькі навучаць разьбе па дрэве, вышыўцы, саломапляценню і іншым традыцыйным рамёствам, але і далучаць да роднай культуры. ■

АДПАЧЫНАК

## Па пушчы — на веласіпедзе

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

Новы від турызму — навуковы велатурызм — адкрыты нядаўна ў Нацыянальным парку «Белавежская пушча». Першымі «навуковую сцяжынку» праклалі два біёлагі з Даніі, якія ў сярэдзіне ліпеня прыязджалі ў Белавежскую пушчу на веласіпедах. Яны атрымалі дазвол на двухдзённае падарожжа па пушчы па маршруце, узгодненым з кіраўніцтвам Нацыянальнага парку, і засталіся задаволеныя ўбачаным.

Пакуль на веласіпедах па пушчы могуць падарожнічаць толькі вучоныя — масавым гэты від турызму не стане. Аднак звычайным наведвальнікам засмучацца не варта — сёння для іх у пушчы арганізавана нямала цікавага: экскурсіі ўздоўж вальераў і па Музеі прыроды, аўтамабільныя экскурсіі да дуба-велікана і да маляўнічых азёраў; працуе экалагічная сцяжынка, якая мае працягласць усяго 300 метраў, але затое «змяшчае» ў сабе практычна ўсю разнастайнасць мясцовай флоры. ■



ПРЫВАТНАЯ ДУМКА

# Экспертыза свісту

**Вячаслаў ГАНЧАРУК, пенсіянер**

**Няправільна называць насельніцтва Беларусі адзіным народам. Таму, што ён дзеліцца, па меншай меры, на дзве катэгорыі: апарат упраўлення і насілля з іх сем'ямі, кланамі, пенсіянерамі (якія складаюць вялікую частку жыхарства нашых гарадоў), і збяднелыя рабочыя і сяляне з іх сем'ямі і пенсіянерамі.**

### Ідзі ты, бабка...

Усе ведаюць, што ніводны супрацоўнік сельсавета (на вёсцы) ці ЖЭСа (у горадзе), не гаворачы аб больш высокіх установах, хоць і возьме ў бабулькі заяву на выпіску дроў альбо задавальненне іншай патрэбы, але не пойдзе да вышэйстаячых дабівацца вырашэння пытання. Хутчэй за ўсё ён, спаслаўшыся на аб'ектыўныя цяжкасці (цяпер гэта часцей за ўсё слабае фінансаванне), адправіць бабку «у самастойнае плаванне» па ўстановах. Потым бабка раскажа такой жа гаротнай суседцы, што дайшла да самага галоўнага начальніка, але пытанне не вырашыла (грошай у яго няма, беднага).

Калі ж пытанне будзе вырашана, дык «свабодныя» СМІ (не блытаць з незалежнымі) распішуць подзвіг чыноўніка, які ён здзейсніў у імя народа, якому «служыць».

### А суддзі хто?

Як толькі селянін возьме дадому вядро калгаснай бульбы ці рабочы вынесе вінцік з гаечкай, адразу ўключаецца ўся праваахоўная раць і пачынаецца барацьба за зберажэнне дзяржуласнасці. Хаця, заўважым, калгасная ўласнасць не мае адносінаў да дзяржаўнай, а большасць прадпрыемстваў ужо даўно акцыянаваныя. Гаворка не ідзе аб апраўданні крадзяжу. Але аб тым, каб пакаранне было адэкватным граху, а Феміда стала, нарэшце, аб'ектыўнай.

Чаму ў нашай дзяржаве ўся эканомія сродкаў здзяйсняецца за кошт пенсіяў і заработнай платы? Навошта, пытаюцца многія, нам столькі ўзброенай сілы? І генералы, нікольки не сумняваючыся, адказваюць, што гэта трэба для нашай бяспекі. Маўляў, таму, хто не хоча карміць сваю армію, з часам прыходзіцца карміць чужую. Тады няхай скажуць — чыю. Нават па афіцыйных заявах, знешніх ворагаў у нас няма. Застаецца толькі «ўнутраны», гэта значыць народ, які корміць армію на выпадак падаўлення народных хваляванняў?

### Кіраванне

Нядаўна Міхаіл Мясніковіч, падводзячы вынікі пяцігадовага прэзідэнцкага праўлення, тлумачыў тэлегледачам, наколькі стала складаней упраўляць дзяржавай у параўнанні з савецкім часам. Гаварыў, што ў той час была якаянікая сістэма. Узнікае пытанне, што за сістэму склалі за гэтыя гады? На Беларусі за лік дзяржбюджэту ўтрымліваюцца 6 абласцей, дакладней, 6 адпаведных чыноўніцкіх апаратаў. Кіраванне ў сэнсе кіравання працэсамі (дапусцім, грашовым абарачэннем, сацыяльным развіццём і іншымі рэчамі) няма і ва ўспаміне. Замест таго ўлада дэманструе па БТ публічныя разносы функцыянераў, ад якіх, зразумела, не залежыць ні надвор'е, ні аб'яднанне з Расіяй. Не сёння-заўтра, заяўляюць нам улады ўжо 5 гадоў, мы растворымся ў



Фота IREX/ProMedia

Расіі, станем яе губерняй, тым не менш Беларусь як «сур'ёзная» дзяржава за лік бюджэту ўтрымлівае шмат усялякіх грамадскіх фондаў, а таксама пасольствы і прадстаўніцтвы за мяжой, аб якіх толькі і можна сказаць, што аплачваюцца ў паўнавартаснай валюце. І ў Беларусі ёсць сваё МЗС, асноўнай задачай якога з'яўляецца ліквідацыя Беларускай дзяржавы за грошы беларускага народа.

### Ход свіннёй

Бясконца далёкі ад сапраўднасці аспірант-гуманітарый, які задумаў, напрыклад, 21 ліпеня гэтага года наведаць навуковы зал Нацыянальнай бібліятэкі (яна, па нашчасці размясцілася насупраць цытадэлі — адміністрацыі Лукашэнкі), лёгка мог з'ехаць з глузду ад убачанага на падыходах да яе. Ад усіх гэтых перабежак, пастраення «свіннёй» малойцаў, якія ў сваіх шлемах і са шчытамі, якія мала адрозніваюцца ад камандас у якім-небудзь там Гандурасе альбо Таіці.

Калі казаць па сутнасці, то мне, як і іншым, усё роўна якую рэлігію спавядае кіраўніцтва — камуністычную або капіталістычную. Але мяне хвалюе, чаму ў адной краіне пенсіянер можа купіць альбо атрымаць пуцёўку ў круіз, а ў нашай такі ж пенсіянер атрымлівае ўтрыманне, каб не памерці з голаду. Калі людзі яшчэ куды-небудзь ездзяць, у тым ліку ў любімую Лукашэнкам Расію, дзе над нашым «зайчыкам» пасміхаюцца ад душы, то толькі дзякуючы існаванню «чорнага» рынку. Сёння практычна ўсе ўзаемныя абавязацельствы ў калектывах, у сем'ях выконваюцца альбо ў наяўных доларах, альбо ва у.а.

Урад лагічна ўзбройвае меншую і высокааплачваемую частку насельніцтва супраць тых, хто спрабуе сказаць, што краіна ўгрузла ў несправядлівасці і галечы. Пагатаму хлопцы, якія зусім нядаўна сядзелі за адной партай, цяпер сядзяць па розных баках бар'ераў у судах і следчых ізалятарах: адзін, спрабуючы даказаць, што ні ў чым не вінаваты, а другі выдумляе яму тэрмін, наперад ведаючы, што абвінавачванне лжывае. Моц — галоўны аргумент. Але калі так, то гэтая дзяржава на самой справе бяссільная. Таму што кіраўнікі нашыя нічога з сабе без улады не ўяўляюць. А калі так, то ўслед за народнай галечай спусцеюць і кармушкі.

Я стары чалавек, пенсіянер. Быў, калі заўгодна, сярэдняй рукі функцыянерам той сістэмы, аб якой нядаўна прылюдна шкадаваў Мясніковіч. Таму ўпаўне магу выступіць экспертам. Пры папярэдняй сістэме было шмат мітусні, таму пар калі-нікалі выходзіць «у свісток», пры цяперашняй — чутны адзін беспрапынны свіст. І ў гэтым, насуперак заяве Мясніковіча, няма нічога складанага: свістаць, вядома, усялякі дурань можа і наогул робіць гэта лепш за разумнага. А ў свістуноў, гаворыць народная мудрасць, грошы не водзяцца. Вось і ўся экспертыза. ■


© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 580 Нумар падпісаны ў друк 03/08/99 (15:00) Наклад — 16.602